Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 13 470.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Аўторак, 3 лютага 1998 г. № 8 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Вярхоўны Савет супраць дадатковых падаткаў

**Не плаціць «надуманыя падаткі» заклікалі грамадзянаў Беларусі дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання.**

У спецыяльным звароце верныя Канстытуцыі 1994 года дэпутаты выказаліся супраць новага парадку спагнання падаходнага падатку. Гэтым Дзяржаўны падатковы камітэт фактычна прымушае значную частку грамадзянаў, у першую чаргу прадпрымальнікаў, двойчы плаціць за адзін і той жа перыяд часу.

Вярхоўны Савет 13-га склікання лічыць гэтыя дзеянні ўладаў незаконнымі і антыканстытуцыйнымі. У звароце дэпутатаў таксама падкрэсліваецца, што *«прэзідэнцкі Нацыянальны сход аказаўся бяссільным і нядздольным абараніць законныя правы грамадзян».*

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

### Сяляне без грошай

**Калгасы і саўгасы Гомельскай вобласці запазычылі сваім работнікам амаль 110 млрд. рублёў.**

Пры гэтым каля 60 гаспадарак не выплачваюць зарплату з кастрычніка мінулага года. Найбольшая запазычанасць у Лельчыцкім і Буда-Кашалёўскім раёнах.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

### Войска беспрацоўных расце

**Гомельшчына па-ранейшаму застаецца лідэрам па беспрацоўі ў краіне.**

У абласным цэнтры занятасці насельніцтва на ўліку знаходзяцца амаль 4 тысячы чалавек. Яшчэ 2 тысячы будуць скарочаныя з гомельскага завода па вырабе кінескопаў «Вестрэй».

Асабліва цяжка знайсці работу ў сельскай мясцовасці. Прыкладам, у Петрыкаўскім, Светлагорскім, Калінкавіцкім і Мазырскім раёнах узровень беспрацоўя перавысіў 4 %. Як паказала сацыялагічнае даследаванне, праведзенае цэнтрам занятасці, вясковыя хлопцы і дзяўчаты імкнуцца атрымаць спецыяльнасці бухгалтара, швачкі, кухара. А калгасам і саўгасам патрэбныя аператары машыннага даення, жывёлаводы, трактарысты.

Робяцца і захады, каб прывабіць у вёску спецыялістаў-гараджан. Але, нягледзячы на жыллё, якое даюць у вёсцы, перасяліліся летась толькі 8 сем'яў. І ва ўсіх раёнах Гомельшчыны дэфіцыт урачоў, інжынераў, аграномаў, жывёлаводаў.

**Алена НЕСЫН**

*ПРАТЭСТ*

## Рынкі бастуюць

*1 лютага пачалася бестэрміновая забастоўка прадпрымальнікаў*



*Так выглядаў рынак у Ждановічах пад Мінскам. Фотакарэспандэнта НАВІНАЎ у нядзелю ахоўнікі затрымалі і сілком зацягнулі ў будынак адміністрацыі рынка. Маўляў, «тут здымаць забаронена. Прыйдзе начальства — яно з табой разбярэцца».*

**У мінулую нядзелю, традыцыйны дзень пакупак, наведвальнікі многіх рынкаў апынуліся перад зачыненымі варотамі: рэчавыя рынкі не працавалі.**

Забастоўка ідзе не толькі ў Мінску, але і па ўсёй краіне. Не гандлююць на рынках у Гродне, Брэсце, Магілёве, Салігорску, Слуцку, Полацку, Наваполацку, Баранавічах, Пінску і іншых гарадах.

Падобнае становішча не толькі на рэчавых рынках, але таксама і на прадуктовых. Прадпрымальнікі, якія гандлююць прадуктамі, напрыклад, на Камароўцы, Чэрвеньскім рынку, часткова падтрымалі акцыю. Але забаставаць нароўні з іншымі яны не маюць магчымасці: тавар можа сапсавацца.

Прычына страйку ўсё тая ж: адсутнасць вынікаў ад папярэджальнага страйку, які прадпрымальнікі правялі пару тыдняў таму. Падатковая інспекцыя хоча спагнаць з прадпрымальнікаў дадатковыя сумы, акрамя ўжо заплачанага па цвёрдых стаўках падаходнага падатку.

Як паведаміла карэспандэнту НАВІНЫ адна з кіраўнікоў прадпрымальніцкага прафсаюза Кацярына Навумовіч, забастоўка будзе працягвацца, пакуль Канстытуцыйны суд не ўзбудзіць справу па факце парушэння падатковай інспекцыяй заканадаўства альбо пакуль падатковая інспекцыя сама не адменіць свае правілы, якія зробяць большасць прадпрымальнікаў банкротамі.

Аднак на звароты грамадзян і арганізацыяў Канстытуцыйны суд адказаў, што ён можа даваць заключэнні аб канстытуцыйнасці нарматыўных актаў толькі па прапанове ўпаўнаважаных на тое суб'ектаў. Прэзідэнцкая канстытуцыя, якая пачала дзейнічаць пасля рэферэндуму 1996 г., пазбавіла Канстытуцыйны суд права ўзбуджаць справу па ўласнай ініцыятыве.

Забастоўка прадпрымальнікаў дэманструе, што яны аказаліся ў вельмі цяжкім становішчы. Пацерпяць ад страйку не толькі незадаволеныя пакупнікі, не толькі дзяржава, якая атрымае менш падаткаў, але перш за ўсё самі прадпрымальнікі, якія гандлем зарабляюць сабе на жыццё. Забастоўка стала крокам роспачы.

**Алесь САДОЎСКІ**

### Хваляванні на рынках Магілёва

1 лютага не працаваў ніводзін з 3-х рэчавых рынкаў у Магілёве. Мясцовыя гандляры на сваім прафсаюзным сходзе абвесцілі месячны страйк.

Рашэнне аб страйку прымалі 1.500 чалавек, — столькі прысутнічала на сходзе. Гэта практычна ўсе, хто прадае тавары на рынках Магілёва, і амаль палова афіцыйна зарэгістраваных у Магілёве прадпрымальнікаў. Сход праходзіў вельмі напружана, усё было вырашана аднагалосна. Нават прысутны прадстаўнік абласнога камітэта па інвестыцыях і прадпрымальніцтве Аляксандр Горваль быў вымушаны падтрымаць патрабаванні гандляроў і прызнаць, што «падаткавыя прынялі няправільныя рашэнні».

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

### У Гродне таксама бастуюць

Прадпрымальнікі Гродзеншчыны таксама падтрымалі агульнабеларускую акцыю пратэсту. У Гродне з 1 лютага спынілі працу 3.000 прадпрымальнікаў, пачалі баставаць таксама ў Слоніме і Ваўкавыску.

Далучыліся да акцыі і ў Лідзе, хоць першую папярэджальную забастоўку ў студзені лідчукі не падтрымалі. Больш за тое: цяпер на гарадскім рынку створаны незалежны прафсаюз.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

### Бандыты ў міліцэйскай форме

**Злачынцы ўсё часцей прыкрываюцца формай супрацоўнікаў міліцыі.**

Днямі непадалёк вёскі Селішча Аршанскага раёна чацвёра невядомых, адзін з якіх быў у мундзіры работніка гарадской міліцыі, здзейснілі дзёрзкае злачынства. Яны спынілі аўтобус, у якім 22 пасажыры ехалі з Оршы ў Маскву. Пагражаючы пісталетам і нажамі, злачынцы забралі ў іх каля 19 мільёнаў рублёў, 70 долараў ЗША, нанеслі рэзаныя раны рук двум пасажырам і з'ехалі на аўтамашыне «мерседэс».

Як удалося высветліць міліцыі, гэты аўтамабіль яны захапілі ў Оршы, а гаспадара машыны скруцілі, засунулі ў багажнік і вазілі з сабою. Пасля нападу на аўтобус яны кінулі машыну ў Оршы. Пошук злачынцаў працягваецца.

*БелаПАН*

### Паганяйла шукае гарантый у Маскве

**Вядомы беларускі адвакат Гары Паганяйла, які апошнім часам выступаў абаронцам у палітычных справах, стаў членам Маскоўскай гарадской калегіі адвакатаў.**

Апрача таго, ён мае намер атрымаць расійскае грамадзянства: законы Расіі дазваляюць мець двайное грамадзянства. Як вядома, у кастрычніку 1997 года Г.Паганяйла пад ціскам уладаў быў змушаны «па ўласным жаданні» выйсці з Мінскай гарадской калегіі адвакатаў і тым самым страціў права ўдзельнічаць у разглядзе крымінальных справаў. Магчымасць абараняць на судзе інтарэсы Паўла Шарамета, улічваючы грамадскі рэзананс, была яму прадстаўленая ў парадку выключэння. Па словах Г.Паганяйлы, ён уступіў у Маскоўскую калегію адвакатаў, паколькі жадае заставацца прафесіянальным юрыстам. Апрача таго, ён з'яўляецца членам Міжнароднага саюза адвакатаў і Гільдыі расійскіх адвакатаў. Такім чынам, у адпаведнасці з Канвенцыяй аб прававой дапамозе, заключанай паміж краінамі СНД, ён мае магчымасць браць удзел у працэсах па справах грамадзян любой краіны Садружнасці.

*«У прававым плане я не бачу перашкодаў для ажыццяўлення сваёй дзейнасці на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь,* — сказаў Гары Паганяйла. — *Аднак я ведаю, што беларускія ўлады праводзяць пэўную работу, каб перашкодзіць маёй далейшай дзейнасці ў якасці адваката».* Міністэрства юстыцыі, па яго словах, рыхтуе пісьмо ва ўсе суды, органы пракуратуры і ўнутраных спраў аб тым, што Г.Паганяйла не мае права займацца адвакацкай практыкай. Па сутнасці справы, лічыць адвакат, да яго прымененая забарона на прафесію.

*БелаПАН*



*ВІЗІТЫ*

### Услед за паслом прыедзе прэм'ер

**5-6 лютага павінен адбыцца візіт у Мінск прэм'ер-міністра Украіны Валерыя Пуставойценкі.**

Візіт планаваўся даўно, і нарэшце падрыхтаванае кола пытанняў, якія будуць абмяркоўвацца, паведаміў новы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Анатоль Дронь. Акрамя таго, сказаў пасол, бліжэйшым часам, магчыма, адбудзецца сустрэча ўкраінскага і беларускага прэзідэнтаў; аб гэтым яму паведаміў Леанід Кучма.

Адказваючы на пытанні журналістаў, Анатоль Дронь адзначыў, што ў якасці пасла мае намер працаваць над далейшым развіццём украінска-беларускіх адносінаў «па ўсіх накірунках». Паколькі *«адносіны з суседнімі дзяржавамі з'яўляюцца адным з прыярытэтаў знешняй палітыкі Украіны»,* паглыбленне і пашырэнне двухбаковага супрацоўніцтва ён лічыць адной са сваіх галоўных задач.

Даведка: Анатоль Дронь нарадзіўся ў 1945 годзе ў Чарнігаўскай вобласці, украінец. Кандыдат эканамічных навук. Працаваць пачаў у 1963 годзе бетоншчыкам на будоўлях Кіева, пасля скончыў Кіеўскі інжынерна-будаўнічы інстытут па спецыяльнасці інжынер-будаўнік. З 1991 па 1994 год узначальваў Дзяржаўны камітэт Украіны па жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Народны дэпутат Украіны 12-га і 13-га скліканняў; член Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы.

### Прэзідэнты абяцаюць, што будуць гуляць па еўрапейскіх правілах

**Афіцыйны візіт прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Саюзную Рэспубліку Югаславія завяршыўся 30 студзеня. У Бялградзе падпісаныя чатыры міжурадавыя пагадненні і прынятая Сумесная беларуска-югаслаўская заява.**

У заяве адзначаецца, што афіцыйны візіт прэзідэнта Лукашэнкі ў СРЮ і яго перамовы з прэзідэнтам Слабаданам Мілошавічам *«прайшлі ў духу дружбы і глыбокай узаемапавагі, якімі характарызуюцца адносіны паміж краінамі і народамі».* Бакі пацвердзілі сваю рашучасць *«прытрымлівацца прынцыпаў і мэтаў Статута ААН, Хельсінкскага Заключнага акта і Парыжскай хартыі АБСЕ». «Рэспубліка Беларусь і Саюзная Рэспубліка Югаславія, як еўрапейскія краіны, поўныя рашучасці актыўна ўдзельнічаць у сучасных інтэграцыйных працэсах, уносіць значны ўклад ва ўмацаванне раўнапраўнага супрацоўніцтва і стабільнасці ў Еўропе»,* — гаворыцца ў заяве.

У заяве паведамляецца, што Слабадан Мілошавіч *«з задавальненнем»* прыняў запрашэнне Аляксандра Лукашэнкі наведаць Беларусь з афіцыйным візітам.

*БелаПАН*

## У Магілёве памятаюць расійскі гарнізон

**У Магілёве дэмакратычныя партыі адзначылі 661-ю гадавіну антымаскоўскага паўстання ў горадзе, калі магілёўцы выразалі вялікі рускі гарнізон і вызвалілі Магілёў з-пад маскоўскага панавання.**

Тады горад атрымаў ад канцлера Вялікага Княства Літоўскага значныя прывілеі ў эканамічным жыцці і самакіраванні, якія мела толькі сталіца — Вільня. А рускі цар Аляксей Міхайлавіч пракляў горад.

На гадавіну адбылася ўрачыстая вечарына. У ёй бралі ўдзел разам з магілёўцамі дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Людміла Гразнова, кіраўнік Партыі здароўя сэнсу Іван Каравайчык, барды Віктар Шалкевіч і Андрэй Мельнікаў. Усе выступоўцы адзначалі імкненне да волі нашых продкаў — галоўны ўрок для сённяшніх пакаленняў. На наступны дзень прайшоў пікет. Каля 20 чалавек удзельнічала ў ім з плакатамі «Беларусь будзе вольнай!»

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Фермер-мецэнат

**80 тортаў для ўсіх вучняў і настаўнікаў Салонскай сярэдняй школы Жлобінскага раёна перадаў мясцовы фермер Алег Бабушкін.**

Ужо 20 гадоў, як Алег закончыў родную школу, а сцежку да яе не забыўся. Толькі дзякуючы дапамозе фермера-мецэната вясковая школа здолела адрамантаваць вучэбныя кабінеты, упарадкаваць школьны двор і тэрыторыю дзіцячага садка, што знаходзіцца побач. Не мае школа і праблемаў з паездкамі: выпускнік Бабушкін заўсёды дае свой транспарт.

**А.Т.**

# Замкненае кола злачыннасці

Барацьба з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй — адзін з галоўных прапагандысцкіх лозунгаў дзяржавы. Аднак асаблівых поспехаў у гэтай барацьбе няма, а праваахоўныя органы працуюць неэфектыўна. Гэта сцвярджае і аналітычная даведка Пракуратуры Беларусі «Аб дынаміцы арганізаванай злачыннасці ў Рэспубліцы Беларусь».

Адразу варта адзначыць, што гэтая даведка моцна нагадвае кляўзу на іншыя праваахоўныя структуры. І не дзіва — паміж «сілавікамі» ідзе канкурэнцыя за бюджэтнае фінансаванне, прывілеі і статус.

### Ведаць – не значыць лавіць

Пракуратура адзначае, што МУС і КДБ ведаюць пра існаванне злачынных груповак, але заўважаецца яўная слабасць аператыўных службаў. Факты, на падставе якіх можна завесці крымінальную справу, выяўляюцца кепска.

Напрыклад, у Віцебскай вобласці вядзецца «аператыўны ўлік» злачынных «аўтарытэтаў» і найбольш актыўных удзельнікаў крымінальных груповак, даследуюцца іх сувязі. Аднак, на думку пракуратуры, *«кіраўнікі многіх аддзелаў унутраных справаў не прымаюць меры па актывізацыі аператыўнай работы, глыбока не ўнікаюць у адпаведныя дакументы, не распрацоўваюць дадатковыя мерапрыемствы»*. У Магілёўскай вобласці, якая становіцца своеасаблівым цэнтрам злачыннасці ў Беларусі, не наладжаны *«кантроль за паводзінамі шэрагу аўтарытэтаў»*.

КДБ таксама працуе надта марудна — злачынныя групоўкі распрацоўваюцца імі цэлы год і больш. Вядома, што на гэта патрэбна шмат часу, але ёсць факты нездавальняючага вядзення аператыўнага ўліку і больш за тое — бяздзейнасці па атрыманай інфармацыі. Апошняе, на думку пракуратуры, асабліва датычыцца КДБ Гомельскай вобласці.

Крытыкуе пракуратура і новую структуру — Камітэт па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю пры міністэрстве ўнутраных справаў. У дакуменце запісана, што Камітэт слаба каардынуе працу па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, не забяспечвае ўзаемадзеяння структур міністэрства.

### Злачынствы без пакарання

Пракуратура сцвярджае, што КДБ і МУС не маюць трывалых аператыўных кантактаў у сферах крымінальнай эканомікі, наркабізнесу, нелегальнага абароту зброі, адмывання грошай. Амаль не ўскрываюцца факты злоўжыванняў дзяржаўнай маёмасцю.

Слаба раскрываюцца таксама выпадкі незаконнага вывазу стратэгічных тавараў і сыравіны, кантрабанды, незаконнага пераводу валюты ў замежныя банкі, вывазу капіталу.

Адна з істотных праблем праваахоўных органаў у барацьбе з арганізаванай злачыннасцю — кепскае і неэфектыўнае ўзаемадзеянне з праваахоўнымі органамі іншых краінаў, у тым ліку і краінаў СНД.

Як можна зразумець з даведкі пракуратуры, беларускія праваахоўныя органы не маюць адзінага разумення тэрмінаў «арганізаваная злачынная група», «злачынная арганізацыя» і інш. Таму статыстыка, у залежнасці ад методыкі падліку, можа адрозніваца ледзь не ў два разы.

Пазіцыя пракуратуры, можа, і не зусім аб'ектыўная, але ў цэлым ёй няма падставаў не давяраць. Агульная карціна тым больш трывожная, калі няма агульнага разумення, з чым і з кім змагацца.

### Не той шлях

Атрымліваецца, што супрацоўнікі праваахоўных органаў, маючы нашмат вышэйшыя за сярэдні заробкі і шэраг ільготаў, не адпрацоўваюць сваё існаванне. Узмацненне гэтых структур не прыносіць эфекту ў барацьбе з арганізаванай злачыннасцю.

Між тым, сусветны досвед паказвае: са злачыннасцю лепш змагацца не шляхам бясконцага ўзмацнення праваахоўных органаў, а ліквідуючы ўмовы для існавання моцнай арганізаванай злачыннасці і карупцыі. Паказальна, што да ліку «слабараскрываемых» злачынстваў адносяцца перш за ўсё тыя, дзе вызначальную ролю могуць адыгрываць дзяржаўныя чыноўнікі высокага рангу. Чым больш чыноўнікі прымаюць рашэнняў, чым больш ад іх залежыць — тым больш спрыяльныя ўмовы для развіцця карупцыі і арганізаванай злачыннасці.

Узмацненне ролі дзяржавы ў Беларусі прыводзіць толькі да росту карупцыі і злачыннасці. Што гэта: проста неразуменне сітуацыі ці палітыка?

**Магдалена НЕПАКАЙ**



*Байцы спецназа дэманструюць сваё ўменне ў вайсковай часці ў Мар'інай Горцы. Але прымяняюць гэтыя прыёмы часцей супраць дэманстрантаў, чым супраць злачынцаў.*

# Страляць – толькі ніжэй пояса

***Гродна: адзін год з жыцця абласной міліцыі***



*Гэтую зброю міліцыя сканфіскавала ў злачынцаў.*

### Следчыя заслужылі ксеракс

Гродзенская міліцыя летась 13 разоў працавала ва ўзмоцненым рэжыме і сёння ганарыцца тым, што ў вобласці — самая малая колькасць злачынстваў, а працэнт раскрытых — наадварот, самы высокі. За такую працу начальнік абласнога ўпраўлення ўнутраных справаў палкоўнік А.Белашэўскі атрымаў прэмію — паўтара аклада. Некальким супрацоўнікам уручылі медалі, а следчаму аддзелу падарылі ксеракс.

Дарэчы, самым лепшым у Беларусі райаддзелам міліцыі прызнаны таксама з Гродзенскай вобласці — Навагрудскі. За гэта навагрудцы атрымалі новую машыну УАЗ.

### «Опель» – таннейшы за «Жыгулі»

Нядаўна перад будынкам гродзенскай абласной міліцыі з'явіліся некалькі новых «опеляў»: адзін — мадэлі *Omega*, астатнія — *Astra*. Міністэрства ўнутраных справаў падпісала кантракт з немцамі: так выгадней, бо расійне прадаюць свае «Жыгулі» даражэй, чым каштуе «Опель». Хоць, вядома, нямецкія машыны лепшыя.

Летась гродзенская міліцыя атрымала 84 машыны, прычым на 53 грошы ўзялі ў мясцовым бюджэце. Але ўсё роўна міліцыянты забяспечаныя транспартам пакуль толькі на 58% ад нормы. Міністр абяцае, аднак, што ў будучыні кожны ўчастковы інспектар будзе мець службовую машыну, а на вёсцы — яшчэ і каня. У Нямеччыне, між іншым, участковы паліцыянт мае нават дзве машыны, а ў нас — пакуль ніводнай.

### Палякі і літоўцы гавораць па-свойму

Гродзенская міліцыя традыцыйна супрацоўнічае з паліцыяй Польшчы і Літвы. Больш даводзіцца мець справу з літоўцамі. Вельмі часта суседзі з поўначы крадуць з памежных калгасаў тэхніку і быдла, пераганяюць іх у Літву — і таді даводзіцца прасіць дапамогі ў літоўскай паліцыі. Нядаўна зладзеі звязалі вартаўніка на калгасным двары і скралі два трактары. Потым іх знайшлі пад Вільняй.

Нашая міліцыя хацела б мець «ільготы», г.зн. спрошчаны пропуск на тэрыторыю суседняй краіны, каб можна было хутчэй раскрываць злачынствы. Жыхары Гродзеншчыны дастаўляюць літоўскай паліцыі значна менш клопатаў, чымся літоўцы — нам. Але хоць літоўскія калегі і ідуць на супрацоўніцтва — спецыяльных паблажак нашым не даюць.

Што ж да Польшчы, то дзеля каардынацыі дзеянняў у Варшаве пастаянна знаходзіцца міліцэйскі генерал Рухлядзеў з Мінска (ёсць таксама расійскі генерал і ўкраінскі палкоўнік). Але ўсё адно з палякамі ёсць свае праблемы. Галоўная — «перакладчыцкая». Палякі патрабуюць усе дакументы наконт злачынстваў прадстаўляць на польскай мове, а міліцыі няма чым плаціць за пераклад. На кафедры польскай філалогіі універсітэта імя Янкі Купалы ў Гродне забясплатна гэта рабіць, вядома ж, адмаўляюцца.

Дый самі палякі прысылаюць дакументы на польскай мове — а нашая хацелі б, каб па-руску. Ці хаця б па-англійску. Зрэшты, менавіта так запісана ў двухбаковай дамове, але папера — адно, практыка — другое.

І ўсё ж сувязі з палякамі не парываюцца. Нядаўна ў Беластоку затрыманы злачынца, які здзейсніў забойства на Гродзеншчыне. Цяпер вырашаецца пытанне аб яго выдачы. І паколькі тут відавочны факт цяжкага крыміналу, польскі суд напэўна прыме рашэнне аб экстрадыцыі забойцы.

### Страляць – па нагах!

Самую вялікую стралковую практыку маюць, як ні дзіўна, інспектары ДАІ. Ледзь не кожны дзень каму-небудзь з іх даводзіцца ўжываць зброю, каб затрымаць машыну парушальніка. Можа, калі міліцыя перасядзе хаця б на «опелі», даганяць парушальнікаў ім стане лягчэй — і не трэба будзе хапацца за пісталеты і аўтаматы. Бо для затрымання менавіта злачынцаў (а не проста парушальнікаў правілаў дарожнага руху) зброя выкарыстоўваецца значна радзей.

Сёння выявіўся і яшчэ адзін значны недахоп старой, яшчэ савецкага ўзору, сістэмы падрыхтоўкі міліцыянтаў. Дагэтуль вучылі цаляць у «цэнтр мішэні», гэта значыць — у грудзі чалавека. Цяпер узнікла патрэба вучыць страляць па ніжняй частцы цела, па нагах. А для гэтага трэба змяніць і адпаведныя інструкцыі, і трэнажоры, і мішэні ў цірах.

### Міліцыянты гінуць па-за службай

Летась у вобласці загінула сем супрацоўнікаў міліцыі. Прычым усе — не пры выкананні службовых абавязкаў, напрыклад, — у дарожных здарэннях.

333 супрацоўнікі былі пакараныя. З іх 55 — за п'янства, 12 — за кіраванне машынай нападпітку, 50 — за дарожна-транспартныя здарэнні. 21 міліцыянт быў асуджаны судамі. 50 чалавек атрымалі цялесныя пашкоджанні і раненні, што ўтрая больш, чым пазалетась.

### Наркотыкі ў турме

За год у месцах зняволення ў вязняў было сканфіскавана 1,5 кг наркотыкаў і 153 літры спіртных напояў. Сканфіскавана таксама 30 мільёнаў рублёў і каля 3 тысячаў долараў.

Увогуле, нягледзячы на ўсе меры перасцярогі і кантролю, турмы і калоніі жывуць па сваіх законах. Часам міліцыянты і наглядчыкі свядома заплюшчваюць вочы на дробныя парушэнні рэжыму: так спакайней.

### Смерць у выцвярэзніку

У Слоніме адбыўся скандальны выпадак — у выцвярэзніку памёр мужчына. Падазрэнне пала на супрацоўнікаў гэтай «медычнай установы»: магчыма, распусцілі рукі? Служба бяспекі правяла расследаванне, анатамічнае ўскрыццё паказала, што чалавек памёр ад празмернай дозы алкаголю. Следства спынілі.

Летась міліцыя па традыцыі працягвала змагацца з п'янствам. У выцвярэзніках вобласці пабывалі 18.052 кліенты. Больш за 5 тысячаў алкаголікаў лячыліся ў наркалагічных аддзяленнях бальніц, 357 было накіравана ў ЛПП. Міліцыя паставіла на ўлік яшчэ 15 тысячаў тых, хто злоўжывае гарэлкай. Так што лозунг «п'янству — бой!» застаецца актуальным.

Але калі п'яніцы — з'ява для міліцыі звычайная, то наркаманы — новая праблема. Летась зарэгістравана 120 злачынстваў, звязаных з наркаманіяй. Найбольш гэтая пошасць распаўсюдзілася ў Лідзе і ў Гродне.

Што ж, заканамернасць адна: чым больш горад — тым больш крыміналу. І тым цяжэй міліцыі.

**Алеся МАЛЬКО**

## Прэзідэнт скарачае сваю адміністрацыю

**Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма скарачае апарат выканаўчай улады.**

Леанід Кучма падпісаў указ аб увядзенні рэжыму жорсткага абмежавання бюджэтных расходаў і прадухіленні фінансавага крызісу. Згодна з указам, на 25% будзе скарочаны апарат адміністрацыі прэзідэнта і на 10% — апарат Кабінета міністраў Украіны. Адначасова, у адпаведнасці з законам аб дзяржаўным бюджэце Украіны на 1998 год, на 10% будуць скарочаныя расходы на фінансаванне органаў выканаўчай улады ўсіх узроўняў.

*БелаПАН — УНІАН*

## На развіццё дзяржаўнай мовы

**Прэзідэнт Аскар Акаеў падпісаў указ аб далейшым развіцці дзяржаўнай мовы ў Рэспубліцы Кыргызстан.**

Як паведаміў прэс-сакратар прэзідэнта, указ прадугледжвае распрацоўку канцэпцыі развіцця дзяржаўнай мовы, а таксама стварэнне пры прэзідэнце нацыянальнай камісіі па мове. *«Ёсць пэўныя аб'ектыўныя прычыны, чаму кіргізская мова не магла выконваць функцыі дзяржаўнай. Але цяпер мы поўнасцю перадолеем гэтыя перашкоды»*, — заявіў Аскар Акаеў.

Да сённяшняга дня некаторыя дзяржаўныя службы ў Кыргызстане вядуць дакументацыю па-руску. Новы ўказ прэзідэнта накіраваны на *«стварэнне ўмоваў, што забяспечаць станаўленне паўнацэннай дзяржаўнай мовы, якая будзе бездакорна забяспечваць літаратуру, дзяржаўныя службы і г.д.»* Са сродкаў бюджэту будзе створаны Фонд развіцця дзяржаўнай мовы.

*Інтэрфакс*

## Смяротны прысуд журналісту

**У Іране журналіста прыгаварылі да смяротнага пакарання — за «шпіянаж на карысць Злучаных Штатаў Амерыкі».**

Мартэза Фірузі, галоўны рэдактар газеты *Iran News*, сядзіць у турме з траўня мінулага года. Увесь гэты час ішло следства, і вось днямі Тэгеранскі суд вынес свой вердыкт: смерць. Англамоўная газета *Iran News* неаднаразова абвінавачвалася ў лаяльнасці да ЗША і «недастатковай варожасці да вялікага сатаны» (так называюць у Іране Амерыку). Калі Вярхоўны суд Ірана пацвердзіць рашэнне Тэгеранскага суда, журналіста пакараюць смерцю праз публічнае павешанне.

*Associated Press*

# Латвія адкрыла Нацыянальны фронт

**Перад самым пачаткам 1998 года ў Латвіі стварылася новая грамадская арганізацыя — Латвійскі нацыянальны фронт. Днямі фронт абвесціў праграму нацыянальнага выратавання.**

Апорная пазіцыя ЛНФ заключаецца ў наступным: аднаўленне незалежнасці Латвіі было фармальным, улада сёння ў руках былых камуністычных функцыянераў, якія давялі народ да галечы і такім чынам спрыяюць адраджэнню пракамуністычных поглядаў. Таму ЛНФ бярэ на сябе місію аб'яднання ўсіх нацыянальна-патрыятычных сілаў Латвіі і ўратавання латышскага народа.

Галоўная знешнепалітычная мэта ЛНФ — паўнапраўнае членства Латвіі ў NATO. Аднак пры гэтым франтаўцы выступаюць за дружалюбныя адносіны з Расіяй і нават не супраць прыняць абяцаныя Ельцыным *«расійскія гарантыі бяспекі для краінаў Балты»*.

І ўсё ж Расія Расіяй, а сваё бліжэй: кіраўніцтва ЛНФ выступае за стварэнне адзінага латвійска-літоўска-эстонскага войска — з магчымым далучэннем да гэтага альянсу Польшчы і Украіны.

Беларусь пакуль не разглядаецца як стратэгічны партнёр, але *«ў будучым, пасля змены кіраўніцтва і вяртання афіцыйнага Мінска на еўрапейскія рэйкі»*, супрацоўніцтва магчымае.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Настаўнік не горшы за чыноўніка

**У Латвіі падрыхтаваны закон, у адпаведнасці з якім зарплата настаўнікаў і дзяржаўных чыноўнікаў будзе аднолькавай.**

Сёння дзяржаўныя служачыя атрымліваюць больш за настаўнікаў у сярэднім на 100 латаў (каля 170 долараў) у месяц. Законапраект прадугледжвае, што пастуова заробкі настаўнікаў зраўняюцца з зарплатай чыноўнікаў. І тыя, і другія ў выніку рэформы будуць атрымліваць па 300 латаў (прыкладна 500 долараў) у месяц.

**Р.П.**

## Сціплая каралева

**Каралева Нідэрландаў Беатрыкс вырашыла святкаваць сваё 60-годдзе вельмі сціпла і без залішніх цырымоніяў. Аднак галандцы з гэтым нязгодныя.**

Многія жыхары Гаагі і Амстэрдама незадаволеныя рашэннем Яе Вялікасці і абвінавачваюць каралеву ў тым, што яна «аддаляецца ад народа». І сапраўды: каралева Нідэрландаў вырашыла адмяніць усе святочныя шэсці, харавыя спевы, салюты і феерверкі, прымеркаваныя да яе юбілею. Замест гэтага яна ладзіць у сваім палацы невялікі прыём на 160 персон. Вядома, што сярод запрошаных будзе і прынц Уэльскі Чарльз, пераемнік брытанскага трона.

*Reuter*

**ДАЙДЖЭСТ**

## Французы вучацца ў шведаў

**У вырашэнні праблем беспрацоўя Францыя, здаецца, пойдзе скандынаўскім шляхам.**

Што з таго, што Францыя ляжыць на самым поўдні Еўропы, а Швецыя і Фінляндыя сягаюць за Паўночны палярны круг? Іхні лозунг — «падзяліся працоўным часам» — цалкам прыдатны і для нас, піша газета *Le Monde*. Банк Францыі правёў даследаванне, якое паказала: скарачэнне працоўнага тыдня з 39 да 35 гадзін можа стварыць на працягу трох гадоў ад 400.000 да 700.000 новых рабочых месцаў. Такім чынам, узровень беспрацоўя, які дасягнуў у Францыі амаль што рэкорднага ўзроўню 12,4%, істотна знізіцца. Акрамя таго, па ацэнках экспертаў, скарачэнне працоўнага часу выкліча рост прадукцыйнасці працы — а значыць, і эканамічны рост.

Праўда, гэты план, адзначае газета, будзе паспяховым толькі ў тым выпадку, калі на яго пагодзяцца прыватныя прадпрыемствы. *«Але сумнявацца не трэба: у нас у Францыі прыемна адпачыць любяць усе — і работнікі, і працадаўцы»*, — аптымістычна рэзюмуе *Le Monde*.

## Ад кахання – адныя клопаты

**Каханне — рэч небяспечная ва ўсіх адносінах, сцвярджае італьянская газета *Il Messangero*, прыводзячы такія доказы.**

Мафія наняла бязлітаснага кілера, які, паводле характарыстыкі газеты, «мог адправіць на той свет і сваю родную бабулю». Ён атрымаў заданне забіць адну маладую дзяўчыну — але закахаўся ў сваю ахвяру. Замест таго, каб застрэліць яе, кілер прызнаўся дзяўчыне ў сваіх пачуццях, звярнуўся ў паліцыю і выдаў усіх сваіх мафіёзных начальнікаў і калегаў.

У выніку пацярпелі ўсе: карабінеры пачалі масавыя арышты, і калабрыйская мафія ўжо страціла 20 байцоў; кілер і ягоная абранніца павінны хавацца, баючыся за свае жыцці; нарэшце, паліцыя павінна траціцца на тое, каб іх ахоўваць ад верагоднай помсты мафіёзі. Сапраўды, ад кахання адныя клопаты і праблемы, заканчвае свой расказ *Il Messangero*.

# Дэ Клерк абскакаў Клінтана

**Былы прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Фрэдэрык дэ Клерк прызнаўся ў сямейнай нявернасці.**

У адрозненне ад прэзідэнта Злучаных Штатаў, ён адкрыта заявіў, што пакахаў замужнюю жанчыну, якая адказвае яму ўзаемным пачуццём. Дэ Клерк падкрэсліў, што з гэтага не варта рабіць сенсацыю, бо такая сітуацыя — дастаткова тыповая. Фрэдэрыку дэ Клерку 61 год, з іх 29 ён пражыў у шлюбе са сваёй жонкай Марыке, у іх трое дарослых дзяцей.




*Дасужыя журналісты кажуць, што новае каханне дэ Клерка — чорная жанчына.*

## Не за камп'ютэр, а за марыхуану

**Шведская паліцыя затрымала двух хлопцаў, якія летась «узламалі» камп'ютэрную сетку амерыканскага касмічнага агенцтва *NASA*.**

Пошукі камп'ютэрных хакераў працягваліся амаль год, імі аказаліся два маладыя хлопцы — 15 і 18 гадоў, паведамляе *Reuter*. Паліцыя сканфіскавала камп'ютэры хакераў, але крымінальную справу на іх заводзіць не будуць, бо яны не атрымалі ад пранікнення ў камп'ютэрную сетку *NASA* ніякай камерцыйнай выгады.

Тым не менш хлопцы могуць стаць перад судом па іншай прычыне: на іхнім сайце ў Інтэрнэт змешчаная рэклама марыхуаны і парнафічнай прадукцыі, а гэта ў Швецыі караецца законам.

## Саламандры ў космасе

**Савецкі Саюз у свой час запускаў у космас сабак, французы — пасылаюць саламандраў.**

Гэтыя хвастатыя амфібіі паляцелі на мінулым тыдні разам з сумесным расійска-французскім экіпажам. Саламандры павінны размнажыцца на ўмовах бязважкасці. Эксперымент прадугледжвае штучнае апладненне. «Хросным бацькам» стане французскі касманаўт Леапольд Эйарц.

# Банкиров не только пугают, но и обманывают

**«За последние пять лет от уголовного террора в банковской системе погибло 97 человек и 47 ранено», — заявил исполнительный директор по безопасности Ассоциации российских банков Виталий Сидоров.**

Он считает, что сегодня уголовный террор по-прежнему остается одним из основных средств силового давления, запугивания неуступчивых банкиров. Причем часто под давлением оказывается не только руководство, но и рядовой персонал.

Однако, по словам директора, сейчас криминал переходит от уголовного террора к чисто мошенническому изъятию денег из банковских структур.

Характеризуя сложившуюся ситуацию с преступностью в банковской сфере, В.Сидоров сказал: «Вор нынче пошел башковитый, с особенным мировоззрением и выдающейся фантазией». Статистика подтверждает, что действительно башковитый: из 7.300 хищений, которые имели место в банках в прошлом году, 6.000 совершены путем мошенничества с использованием поддельной документации.

Другая не менее актуальная проблема — рост преступлений на вексельном рынке. Ценные бумаги сейчас так искусно подделываются, что их подлинность невозможно определить без привлечения экспертов-криминалистов.

# Солнечный удар по Галактике

**Солнце, возможно, станет причиной гибели нашей планеты, а также Меркурия, Венеры и даже Юпитера. Пусть в весьма отдаленном будущем, но такая малоприятная перспектива для землян все же существует, считает известный индийский астрофизик Вишну Нарликар.**

Всему причиной медленное, но неуклонное превращение звезды из космического тела средней величины в гиганта за счет постоянных термоядерных реакций в ее недрах и сильнейшего выделения энергии. По мнению ученого, этот естественный процесс в жизни светила приведет к тому, что размер Солнца увеличится в 200 раз. Составляющее субстанцию звезды раскаленное газовое облако начнет производить мощные выбросы газа, что приведет к образованию новых планет. Они-то и придут на смену Земле и другим космическим телам, которые не смогут существовать в пределах солнечной экспансии. Это, по мысли индийского астрофизика, заставит землян искать для жизни новые планеты.

# Международный скандал из-за собаки Клинтона



*На снимке: президент Клинтон пытается сделать друзьями своего пса Бадди и кота Сокса.*

**Когда президент Клинтон назвал недавно подаренного ему щенка Бадди, он меньше всего ожидал, что может подвергнуться за это судебному преследованию.**

По-английски *buddy* — просто приятель, дружище. Но дело все в том, что старосту одной из деревень в Иордании шейха Бади Ршейда аль Яхья Бани Сахра друзья тоже до недавнего времени звали просто Бади. *«С тех пор как он так назвал свою грязную собаку, люди на базаре показывают на меня пальцем и обзывают «собакой Клинтона». Или он назовет собаку иначе, или я подам на него в суд и потребую компенсацию. Я думаю, 4–5 миллионов долларов будет достаточно»*, — заявил журналистам обиженный тезка президентского щенка.

**Владимир АБАНИН**

*«Рок-каранацыя'97»*

# Карону атрымала Незалежная Рэспубліка Мроя

У мінулы чацвер у сталічным кінатэатры «Масква» прайшла «Рок-каранацыя'97», на якой каранавалі лепшых беларускіх рок-музыкаў мінулага года.

Рокавым гуртом нумар адзін у Беларусі стаў «N.R.M.». І справядліва. Хоць па словах саміх музыкаў, перамога на конкурсе, у якім удзельнічала болей за 50 беларускіх камандаў, была для іх поўнай нечаканасцю.

Як паведаміў вакаліст гурта Лявон Вольскі, «N.R.M.», або «Незалежная Рэспубліка Мроя», у цяперашнім выглядзе існуе з 1995 года, але гісторыя пачынаецца яшчэ ў 1982 годзе, калі быў створаны гурт «Мроя». За апошнія шаснаццаць гадоў істотна змяніўся спіс удзельнікаў гурта, але ягоны накірунак застаецца нязменным — толькі рок-н-рол.

Лепшым альбомам года быў прызнаны «Народны альбом» — сумесны праект беларускіх рок-гуртоў на вершы Міхала Анемпадзістава. Дарэчы, Міхал Анемпадзістаў атрымаў сваю «каронку» і за лепшыя тэксты да «Народнага альбома». Хоць, здаецца, самая лепшая рэч у гэтым альбоме — песня пра бедную Надзечку, якая спакусілася на абяцанні расійскага вайскоўца (тэкст народны).

Гурт «Пані Хіда» з Оршы, як высветлілася, меў самую лепшую песню мінулага года — «Танец». І гурт не толькі спявае яе, але і ўдала скача. У «Пані Хіды» добрае пачуццё рытму, і атмасфера, якую яны ствараюць на сцэне, — сапраўды рок-н-рольная. Але сёлета ў намінацыі «Лепшая песня» праходзілі два гурты. Прыз разам з «Пані Хідай» атрымаў яшчэ «Новы Ерусалім»: песня «Я ведаю любоў» — слабая, але яе так высока ўзнялі, відаць, з меркаваннаў набожнасці. Гурту «Пані Хіда» ў той вечар увогуле моцна шанцавала: журы прызнала іхні відэакліп «Слёзы на соснах», зняты тэлекампаніяй «Свой круг», лепшым кліпам мінулага года.

А вось самым спрэчным можна назваць рашэнне аддаць карону рок-князёўны Крысціне Мендзялеевай з «Hasta La Fillsta». Канечне, можна доўга наракаць, што дзяўчат у беларускіх рокавых гуртах няшмат, але канкурэнтка Крысціны — Вераніка Круглова з гурта «Крыві» — мела нашмат больш падставаў на ганаровы тытул князёўны. Відаць, журы кіравалася прынцыпам «больш адной кароны ў адны рукі не даваць», бо «Крыві» атрымаў карону ў намінацыі «Традыцыі і сучаснасць» за ўдалае спалучэнне старажытных матываў і сучасных рытмаў.



Першы лаўрэат «Рок-каранацыі» Ігар Варашкевіч (у цэнтры) віншуе Лявона Вольскага і Піта Паўлава з сёлетняй перамогай «N.R.M.».

А так вечарына прайшла даволі дынамічна і цікава. Заўзятары адзначалі, што ў параўнанні з мінулымі «Каранацыямі» гэтая — найлепшая. Але былі і недахопы. Як вядома, рок-н-рол — музыка вельмі дэмакратычная, яна не прызнае ніякіх забаронаў: хочаш — слухай, хочаш — танцуй. Але якраз танцаваць на імпрэзе было фактычна забаронена: ахова прымушала ўсіх, хто жадаў патанцаваць, сесці на свае месцы. Зразумела, што ахове зручней працаваць, калі ўсе сядзяць, але канцэрт усё ж ладзіўся не для аховы і нават не для музыкаў: галоўнае — гэта гледачы. І кепска, што ў Мінску арганізатары многіх рок-н-рольных канцэртаў забываюцца пра гэта і імкнуцца толькі зарабіць грошы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



*Удалы «Танец» аршанскай «Пані Хіды».*

# Даты і лёсы

*3 лютага*

Дзень Св.Маргарыты, нябеснай заступніцы цяжарных жанчын. Згодна падання, яе праглынуў велізарны цмок, але кабета не разгубілася і разрэзала знутры ягонае бруха.

**1488.** Партугальскі навігатар Барталамеу Дыяш здзейсніў мару еўрапейскіх мараходаў — праплыў праз паўднёвы мыс Добрай Надзеі — паўднёвы край Афрыкі. Такім чынам ён давёў, што з Атлантычнага акіяна можна морам трапіць у Індыйскі.

**1730.** У англійскай газеце *Daily Advertiser* упершыню ў гісторыі была надрукаваная табліца абменных курсаў валют.

**1920.** Войска генерала С.Булак-Балаховіча вырашыла ўмацаваць фінансавае становішча праз продаж паштовых марак. У Латвіі былі надрукаваныя 5 млн. марак пяці відаў, іх продаж дазволіў атрымаць 40.000 латвійскіх рублёў і 25.000 нямецкіх марак.

**1927.** У мястэчку Косава Палескага ваяводства польская паліцыя расстраляла дэманстрацыю сялянаў, якія пратэставалі супраць разгону Беларускай сялянска-рабочай Грамады, 6 чалавек загінулі, некалькі дзесяткаў былі параненыя.

**1930.** У газетах БССР была надрукаваная рэзалюцыя ЦК КП(б)Б пра выкрыццё «палітычных памылак» і нацыянал-дэмакратычны ўхіл удзельнікаў літаратурнага згуртавання «Узвышша». Пачаліся масавыя рэпрэсіі супраць беларускіх пісьменнікаў.

**1945.** Больш за 1.000 самалётаў саюзнікаў здзейснілі бомбавы палёт на Берлін.

**1958.** Бельгія, Нідэрланды і Люксембург аб'ядналіся ў эканамічны саюз Бенілюкс.

**1966.** Савецкая станцыя «Луна-9» здзейсніла першую ў гісторыі касманаўтыкі пасадку на Месяц.

**1993.** Вярхоўны Савет Беларусі адмяніў сваю ранейшую пастанову пра прыпыненне дзейнасці КПБ-КПСС.

*4 лютага*

**1808.** Нарадзіўся класік літаратуры, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Па абвінавачанні ў напісанні рэвалюцыйных пракламацыяў і за ўдзел у паўстанні 1863 г. больш за год адседзеў у мінскай турме, шмат гадоў жыў пад наглядам паліцыі. У спектаклях паводле п'есаў «Рэкруцкі набор» і «Сялянка» («Ідыліі») з поспехам выступаў сам як акцёр.

**1893.** Нарадзіўся аўстралійскі палеантолаг Рэймэнд Дарт, які ў 1924 г. знайшоў у Паўднёвай Афрыцы рэшткі малпападобнага чалавечага продка і тым пацвердзіў эвалюцыйную тэорыю Дарвіна.

**1931.** Застрэліўся Усевалад Ігнатоўскі — былы наркам асветы БССР і прэзідэнт Беларускай акадэміі навук. Яго абвінавацілі ў нацыянал-апартунізме і прыналежнасці да Саюза вызвалення Беларусі.

**1938.** Загінуў у ГУЛАГу паэт, аўтар першай беларускай п'есы ў вершах «Каханне ўсё перамагае» Алесь Гурло.

**1938.** Гітлер прыняў на сябе абавязкі галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі Германіі.

**1948.** Шры Ланка (Цэйлон) дамаглася незалежнасці ад Брытанскай імперыі.

**1990.** У Маскве прайшоў найбуйнейшы за ўсе гады савецкай улады апазіцыйны мітынг, наладжаны Міжрэгіянальнай дэпутацкай групай Вярхоўнага Савета СССР. У мітынгу ґ дэманстрацыі ўзялі ўдзел больш за 100 тысячаў чалавек.

*5 лютага*

**1788.** Нарадзіўся першы брытанскі прэм'ер-міністр неарыстакратычнага паходжання Боб Піл. Піл рэфармаваў паліцыю, і гэта ў яго гонар брытанскіх паліцэйскіх называюць «бобі».

**1840.** Нарадзіўся шатландскі ветэрынар Джон Данлап, вынаходнік пнеўматычных шынаў для ровара.

**1918.** Мінскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў распусціў гарадскую Думу — орган гарадскога самакіравання, створаны ў 1795 г.

**1923.** Нарадзіўся сучасны класік беларускага мастацтва Леанід Шчамялёў. Прафесійным мастаком ён стаў толькі ў 36 гадоў.

**1973.** У штаце Каліфорнія суд прыгаварыў Хуана Карону да рэкорднага тэрміну пакарання — 25 пажыццёвых зняволенняў за забойства 25 супрацоўнікаў фірмы, у якой працаваў і сам злачынец.

**1983.** У архіве дацкага горада Одэнсе была выпадкова знойдзена невядомая сімфонія Моцарта, якую кампазітар напісаў у 9-гадовым узросце.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Нашыя ў Нагана

**Раніцай 31 студзеня першая партыя беларускіх алімпійцаў вылецела ў сталіцу XVIII Зімовых Алімпійскіх гульняў — японскі горад Нагана.**

Другая група спартсменаў і трэнераў адправіцца ў Японію 4 лютага. Беларуская дэлегацыя налічвае больш за 130 чалавек, 62 з іх — спартсмены, астатнія — трэнеры, медыкі, чыноўнікі. Нагадаем, што на папярэдніх гульнях у Лілехамеры (Нарвегія) нашую краіну прадстаўлялі 33 атлеты, г.зн. амаль удвая менш. Самы знакаміты ў камандзе — алімпійскі чэмпіён-88, срэбны прызёр Гульняў-92 біятланіст Аляксандр Папоў. Яму і даверана пранесці сцяг Беларусі на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця Алімпіяды. Яшчэ адна славутасць — Святлана Парамыгіна, срэбная медалістка мінулых Гульняў, таксама біятланістка.

Беларусы выступяць у дзевяці з 14 відаў алімпійскай праграмы: біятлоне, лыжных гонках, скачках з трампліна, лыжным двухбор'і, фрыстайле, фігурным катанні, канькабежным спорце, спаборніцтвах гарналыжнікаў і турніры хакеістаў.

Аднак рэальныя шанцы на медалі маюць толькі біятланісты і ў меншай ступені лыжныя акрабаты (лыжная акрабатыка — адзін з відаў фрыстайла). Але, верагодна, з найбольшай цікавасцю заўзятары будуць сачыць за выступленнямі хакейнай зборнай Беларусі, якая, у выпадку поспеху на першым этапе, памерацца сіламі з грандамі хакея — канадцамі, амерыканцамі і шведамі.

У выпадку перамогі ў Нагана беларускі чэмпіён атрымае абяцаныя дзяржавай 40 тысячаў долараў, срэбны прызёр — 20, бронзавы — 10 тысячаў.

Алімпійскія гульні пачынаюцца 7 лютага, у гэты ж дзень нашыя хакеісты правядуць першы матч з камандай Францыі.

**Сямён ПЛОЦ**

## Медалі ці снег?

**У Раўбічах завяршыўся чэмпіянат Еўропы па біятлоне. «Снежную праблему» спачатку паспяхова вырашылі яго арганізатары, а потым дапамагла і сама прырода.**

Срэбныя ўзнагароды заваявалі беларускія біятланісты Аляксандр Папоў і Наталля Пермякова, бронзавыя — юніёр Аляксандр Усціпаў і мужчынская каманда ў эстафеце 4 па 7,5 км. У эстафетных гонках нашыя выступалі ўжо без алімпійцаў, для якіх чэмпіянат стаў праверкай гатоўнасці перад стартамі ў Нагана.

**Барыс ТАСМАН**

## На гэты раз – без перамогі

**У Мельбурне прайшоў адкрыты чэмпіянат Аўстраліі па тэнісе — першы з чатырох турніраў «вялікага шлема».**

Нашая прыма Наташа Зверава ў пары з амерыканкай Ліндсэй Дэвенпорт выйшла ў фінал жаночага парнага разраду, — але там месцітая беларуская тэнісістка прайграла 17-гадовай Марціне Хінгіс (Швейцарыя) і 15-гадовай Мір'яне Лючыч (Харватыя) — 4:6, 6:2, 3:6.

Мінчанін Максім Мірны ў пары з расіянкай Аленай Ліхаўцавай дабраўся да паўфіналу ў спаборніцтвах мікстаў (змешаных параў). Чэмпіёнамі ў самых прэстыжных намінацыях — адзіночных разрадах — сталі Марціна Хінгіс (другі год запар) і 30-гадовы Пётр Корда з Чэхіі. Абодва атрымалі чэкі на суму 412 тысячаў долараў.

**Сямён ПЛОЦ**

## Званы ў руках смертніка

**У цырымоніі адкрыцця Алімпійскіх гульняў у Нагана будзе браць удзел славуты камікадзэ.**

Яго завуць Матаішы Года. У 1945 годзе ён служыў у спецыяльным падраздзяленні ваенна-марскога флоту Японіі. Як і іншыя камікадзэ, ён быў воінам-смертнікам, або, як іх яшчэ называлі, «чалавекам-тарпедай». «Я і не мог спадзявацца, што выжыву. Я быў гатовы і хацеў памерці за сваю дзяржаву — і раптам скончылася вайна», — гаворыць сёння ветэран.

Цяпер былому камікадзэ 69 гадоў, і яму выпаў гонар абвесціць аб пачатку Алімпійскіх гульняў у Нагана: Матаішы будзе ўдзельнічаць у званы. Цырымонія пройдзе ў старажытным будысцкім храме Зенка-дзы, а манахі пад гукі бронзавых званоў будуць маліцца за мір і шчасце ва ўсім свеце.

**Магдалена НЕПАКАЙ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1146 Нумар падпісаны ў друк 02.02.98 (15:00) Наклад — 13.470